# НАВІНКІ

30 студзеня - 6 лютага 2003 №4(83) Кошт свабодны




COMING SOON!

THE BUSH ADMINISTRATION
IN ASSOCIATION WITH
THE OTHER BUSH ADMINISTRATION
PRESENTS

GULF WARS
EPISODE II
CLONE OF THE ATTACK

STARRING GEORGE W. BUSH · CONDOLEEZA RICE · DONALD RUMSFELD
REPRISING THEIR ROLES FROM EPISODE I
DICK CHENEY · SADDAM HUSSEIN · COLIN POWELL
AND INTRODUCING OSAMA BIN LADEN AS THE PHANTOM MENACE
BASED ON AN IDEA BY GEORGE BUSH, SR
PRODUCTION DESIGNED TO DISTRACT YOU FROM THE FAILING ECONOMY
PRODUCED BY THE MILITARY INDUSTRIAL COMPLEX IN ASSOCIATION WITH EXXON, TEXACO, MOBIL, ET AL
DIRECTED BY A DESIRE TO WIN THE NOVEMBER ELECTIONS
THE SUCCESS OF THIS MILITARY ACTION HAS NOT YET BEEN RATED

# ВОЙНЫ У ЗАЛІВЕ
# ЭПІЗОД II

## Хутка на пірацкіх відэакопіях!

**Як разумець Пуцінскі прэзэнт**

Слово о полку Игоревымъ

на стар.3

***Кашмары*** *нашага гарадка*



*на стар. 6, 11*

**Кадзіраваньне:** даламога або шарлатанства?

40°

Стар.4




Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ № 35. Тыраж 3000 экз.
Нумар падпісаны да друку 30.01.2003г., а 00.01.

# нашага гарадка

## Камунальныя ўтопіі беларускай палітыкі




Вячэрні $ Мінск Financial

Орган Мінскай Рады і МВФ у Беларусі №15 (20

### Не магу маўчаць!



Стаўкі па… дэпазытах… найшлі

### Адкрыты ліст вэтэрана АГП гарадзкім уладам




Шаноўны мэр гораду, узяцца за пяро мяне прымусіла сцэнка, якую мне давялося ўчора назіраць на праспэкце Скарыны непадалёк ад рэстарану «МакДональдс». Там мне трапіла на вочы купка моладзі, якая слухала музыку і сьмяялася. Раптам да іх падышоў тратуарны [illegible]тралёр і ветліва сказаў: «Служба аховы. Калі [illegible] прад'явіце вашыя білецікі на права гуляць па пр[illegible]ызаванай вуліцы». У адказ малойчыкі за[illegible]ліся. Адзін зь іх спрабаваў падмануць к[illegible] і паказаць стары білецік. Другі сказаў, што [illegible]абрак-студэнт. Трэці хныкаў, што ідзе наведа[illegible]ць хворага на мэнінгіт брацікa. Кантралёр згубіўся. Я вырашыў прыйсьці яму на дапамогу. Я паспрабаваў патлумачыць хлопцам, што такое прыватная ўласнасьць, што мэрыя ня можа несьці ярмо сацыяльных расходаў, што ў Менску ў адпаведнасьці з нэалібэральнай практыкай у другіх краінах грамадзкія прасторы, у тым ліку тратуары, прыватызаваныя. Каб захоўваць тратуары чыстымі, іх уладальнікі прадаюць білеты для праходу. Калі ж у вас няма грошай на хаджэньне па тратуарах, адпраўляйцеся гуляць у грамадзкія месцы, дзе ня трэба плаціць за ўваход, напрыклад, супэрмаркет. У адказ я пачуў толькі брыдкія выразы. Я спытаўся ў кантралёра, чаму ён не выклікаў міліцыю. «А што міліцыя», раскінуў рукамі ахоўнік,– «паспрабуйце ўзяць з зайцаў-пешаходаў нейкі штраф. Няма на гэта ніякіх паўнамоцтваў». Вось такая гістрыя.

Шаноўны мэр, колькі яшчэ мы будзем назіраць, як парушаецца Сьвяты закон прыватнай уласнасьці, як нахабна крочыць крымінал па прыватызаваных вуліцах. Ці за тое мы змагаліся на гарадзкіх выбарах 2002 году, ці не за тое пралівалі кроў Захаранка, Красоўскі?.. Шаноўны мэр, ці не прыйшоў час узмацніць меры па барацьбе з зайцамі-пешаходамі і ўвесьці за гэтае злачынства супраць прыватнай уласнасьці спэцыяльную крымінальную адказнасьць. Думаю, што год на хіміі мог бы прымусіць гэтую публіку трымацца падалей ад праватызаваных зонаў.

З павагай,

Ігнат Кірылык,
Сябра АГП з 2002 г.

Велесаускі Менск

Орган Гарадзкога Чартога Белага Семені №15 (2076)



Сэнсацыя: Саша і Сірожа – жыды!

### Указ аб пераходзе гарадзкога жыцьця ў рэжым ваенна-спартовага вышкалу




на месцы якога будуецца закрыты горад, дзе будуць сканцэнтраваныя дамы супрацоўнікаў гарсавету. Быў такі выпадак на будоўлі: адзін з працуючых, сябра БНФ які, як і ўсе партайгеносэ, дабраахвотна выйшаў на суботнік, ганяў тачку з цэмэнтам. Раптам кола тачкі наляцела на каменьне і тачка павалілася на бок. Бэнэхвавец раззлаваўся і разьбіў камень. Гледзячы на гэта відовішча, Чык Ін сказаў: «З такім кулаком мы разаб'ем любога ворага». Дзякуючы такой бязьмежнай любові і даверу вялікага мэра і любімага кіраўніка Чык Іна да нашых гараджанаў, яны сталі ўсемагутнымі – ствараюць усё, чаго няма. Вось такі рэвалюцыйны дух апоры на свае сілы і адчыняе сьвету новы Менск – горад чучхейскага раю. Сапраўды, няма на Зямлі такой сілы, якая б магла пераадолець моц менчукоў. Заўтра любімы мэр наведае будаўніцтва трыюмфальнай аркі ў гонар любімага мэра.

Ліза Чайка

Кіруючыся думкай аб духоўным здароўі і расавай гігіене насельніцтва гораду Менску, адчуваючы сакральную адказнасьць перад спрадвечнымі багамі славянскага космасу, на падставе Рунічных Летапісаў Старажытнарускай І[illegible]чнай Царквы Праваслаўных Старавераў Ін[illegible], я, мэр Менску, загадваю:

[illegible]есьці ўвесь рытм гарадзкога жыцьця ў [illegible]м ваенна-спартовых вышкалаў.

2. Устанавіць для ўсіх супрацоўнікаў прадпрыемстваў і ўстановаў наступны распарадак дня.

5.00 Агульнагарадзкі пад'ём. Усе мужчыны ад 14 да 75 гадоў зьбіраюцца й ідуць на плошчы раёнаў. Фармаваньне калёнаў рабіць па кастах: кшатрыі, брахаманы, шудры, жыды.

5.00-6.00 Крос 12 км.

6.00-6.30 Масавы двубой да першай крыві.

6.30. Сьняданак – сырыя жабы. Насычэньне касьмічнай энэргетыкай праз кантакт зь біяполем.

7.00-9.00 Калектыўная малітва багам і духам роду. Успаленьне благавоніяў перад алтаром Тарха Перуновіча, Бога-Захоўвальніка старажытнай Вялікай Мудрасьці. Калектыўнае чытаньне старажытных Рунаў і Сьвяшчэнных Старажытных Ведаў, Запаветаў Тарха Перуновіча і ягоных Настаўленьняў. Саньтыі. Дыскусія аб прачытаным.

10.00-11.00 Калектыўныя сьпевы ведычнага гімну Менску:

«Сэмаргл-Сварожыч!
Вялік Агнябожыч,
Спалі боль-хваробу,
Ачысьці ўтробу,
У чада людзіны,
У ўсякай тварыны,
У стара і млада,
Ты Божая ўслада!..»

11.00-11.30 Полавы кантакт з жонкамі і сяброўкамі.

16.00-17.00 Прынашэньне ахвяраў Даждзьбогу.

17.00-17.30 Будаўніцтва Вайтмара – лятаючай калясьніцы для падарожжа ў Свастычны рукаў галяктыкі – прарадзіму белай расы.

17.30-19.30 Рэканструкцыя радавога кургана белай расы – Вялікага Капішча Інглії і Духоўнага цэнтру Першаснай Веры Роду Расы Вялікай і Роду Нябеснага.

19.30 Вячэра. Крупа, звараная на іржавай вадзе.

20.00 Сон.

Яўген Афнагель,
Мэр (галоўны волхв') гораду Менску

